наша
# СВАБОДА

№140(227) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

28 СНЕЖНЯ 2001 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

ВЕСТКІ



## Новы год будзе з марозам і снегам

У навагоднюю ноч сіноптыкі абяцаюць мароз да 16 градусаў. У першы дзень Новага году ён трохі спадзе – да 10 градусаў. У пераднавагоднія дні чакаецца мяцеліца.

## Падаражэлі віншаванні

Зноў падаражэлі тарыфы на паслугі электрасувязі. Кошт міжгародніх тэлефонных размоў для насельніцтва павялічыўся ў межах вобласці да 9,5 рубля, а ў межах краіны — да 19 рублёў за хвіліну. Кошт пачасавай платы ў межах аднаго гораду цяпер 3,36 рубля за хвіліну. Адно слова ў звычайнай тэлеграме, у прыватнасці з навагоднімі віншаваннямі, вам абыдзецца ў 12,5 рубля, у тэрміновай — 25 рублёў.

## Дэмаграфічная небяспека

Паводле статыстыкі, з 1990 па 1999 год узровень нараджальнасці ў Беларусі знізіўся на 34,5%, а смяротнасці, наадварот, узрос на 26%. Колькасць заключаных шлюбаў скарацілася на 28%, а колькасць разводаў павялічылася на 35%. За 7 апошніх гадоў колькасць беларускага насельніцтва скарацілася амаль на 300 тысяч чалавек. Згодна з дэмаграфічнымі прагнозамі ААН і беларускіх навукова-даследчых інстытутаў, насельніцтва нашай краіны праз 50 гадоў можа зменшыцца прыкладна на 2 мільёны чалавек.

## Школьнікі мусяць збіраць макулатуру

Як падае Радыё «Рацыя», гомельскім школьнікам у хуткім часе давядзецца канкураваць з бамжамі. На адной з апошніх нарадаў у Гомельскім гарвыканкаме ягоны старшыня Леанід Барабанаў заявіў, што ў наступным годзе ўстановы адукацыі зазнаюць дэфіцыт фінансавання прыкладна на 20%, таму трэба збіраць металалом, макулатуру, іншую другасную сыравіну. Сярод іншых захадаў самафінансавання прапануецца актывізаваць працу школьных вучэбна-вытворчых камбінатаў па аказанні платных паслуг насельніцтву.

## На святы менее злачынстваў

На працягу трох выходных дзён на каталіцкае Раство ў Мінску прыкметна знізілася колькасць крымінальных злачынстваў. Паводле звестак гарадскога крымінальнага вышуку, гэтымі днямі ўчынена 11 вулічных рабункаў, але кватэрных крадзяжоў здарылася меней, чымсьці звычайна. Не скрадзена ніводнага аўто. У несвяточныя дні ў беларускай сталіцы ўчыняецца блізу чатырох дзесяткаў крымінальных злачынстваў.

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»
1590

**Увага!**
**Наступны нумар Нашай СВАБОДЫ выйдзе 4 студзеня 2002 году**

## Як сустрэць Новы год

Міфалагічны сімвал году, які надыходзіць, — Ветразі Карабля, а гэта значыць – вандроўкі, пошукі, імклівыя перамены, а для самых спрытных і мэтанакіраваных – рух згодна з курсам. Таму добра было б не сядзець на месцы, у тым ліку і ў Новы год, а выпраўляцца ў дарогу з добрымі спадарожнікамі. Гэтым разам з кім сустрэнеш Новы год, які будзе твой спадарожнік паводле сферы інтарэсаў і творчых задаткаў, — так наступны год і правядзеш. І ці будзе гэта дарога ў госці, да роднага дому, на гулянне або па справах – важна, каб яна прыносіла радасць, дабратворныя перамены і жаданне жыць актыўным жыццём.

Паводле кітайскага календара год, які надыходзіць, пройдзе пад знакам Каня. А гэта значыць, што мы станем сведкамі масавых відовішчаў і працэсаў, глабальных праяваў. У руху наперад на калясніцы, запрэжанай коньмі, важна, якія ў цябе спадарожнікі, саюзнікі, і яны будуць мець вырашальнае значэнне.

У Беларусі ёсць свае «конскія» калядныя звычаі. З лёну, лучыны і палатна робяць «каня». Яму на спіну становіцца чалавек, які ўдае конніка. Такога «каня» водзіць ад хаты да хаты «цыган» у каптане, з перамазаным сажаю тварам. За імі ходзяць калядоўшчыкі і розныя аматары павесяліцца. Зайшоўшы ў дом, калядоўшчыкі пяюць, а цыган нахвальвае свайго каня, прымушае яго скакаць, але ад стомы той не можа скрануцца з месца. Цыган падбадзёрвае яго рознымі жартамі, але ўрэшце пераконваецца, што той захвараў. Тады ён просіць гаспадароў даць «кабыле на авёс» – гэта адзіны спосаб, каб падтрымаць каня. Гаспадары спаўняюць просьбу, даючы калядоўшчыкам пачастунак.

# З новым шчасцем!




## Навагоднія забаўкі

З 30 снежня ў сталіцы распачнуцца афіцыйныя навагоднія імпрэзы. Пачатак святочнаму шматдзённаму «марафону» пакладзе запальванне агеньчыкаў на галоўнай ёлцы краіны на Кастрычніцкай плошчы, што мае адбыцца ў гэты дзень а 12 гадзіне. Пасля гэтага цэнтр гарадскіх гулянняў перамесціцца да Палацу спорту на праспект Машэрава, куды ад гарадской ёлкі да Снягурак выпраўяцца шэсцем на праспекце каля 300 сталічных Дзядоў Марозаў. Увечары для моладзі на плошчах Незалежнасці і Кастрычніцкай будуць ладзіцца святочныя скокі, а забаўляць юнакоў і дзяўчат будуць ды-джэі ўсіх папулярных моладзевых радыёстанцыяў.

Музычная хваля працягнецца і наступным днём (31 снежня): зранку ад 11 да 15 гадзіны на абедзвюх плошчах музыкі будуць забаўляць дзетак, а ўжо пасля зноў надыдзе час, аж да самага вечара, нястомнай моладзі.

Непасрэдна навагоднія святы распачнуцца праз паўгадзіны пасля надыходу Новага году тэатралізаваным перформансам з удзелам беларускіх папспевакоў (сярод іх будзе і гурт «Палац»). Каб дылема – пабыць на плошчы разам з народам альбо паслухаць прамову прэзідэнта па БТ – не замінала мінчукам святкаваць надыход Новага году, арганізатары ўсталююць на Кастрычніцкай плошчы адмысловы экран, па якім усе прысутныя змогуць паглядзець трансляцыі віншаванняў Аляксандра Лукашэнкі і мэра гораду Міхаіла Паўлава.

Святочны феерверк будзе наладжаны а палове другое раніцы каля стэлы на праспекце Машэрава. Як запэўнілі арганізатары, ён будзе відаць і з Кастрычніцкай плошчы. Цягам усёй ночы на праспекце будзе працаваць радыёпошта, праз якую вы зможаце павіншаваць каго заўгодна ад плошчы Незалежнасці да плошчы Перамогі, бо толькі гэтая частка праспекта радыёфікаваная.

Святы працягнуцца да 5 гадзінаў раніцы, і ўсю ноч, каб было дзе пагрэцца гарачай кавай, будуць працаваць крамы на праспекце («Цэнтральны», «Ласунак» і «Узвышша»).

Інга ГРЫМОНТАВА

## Пашпарт СССР – нячынны

З 1 студзеня 2002 году грамадзяне Беларусі не змогуць выязджаць за межы краіны па пашпартах з сімволікай СССР. З новага году для выезду за мяжу будзе сапраўдны толькі пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь узору 1996 году. Пра гэта БелаПАНу паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў краіны.

Калі ж грамадзяне выехалі за межы рэспублікі з пашпартамі СССР да 1 студзеня 2002 году, то іх уезду назад у краіну нішто перапыняць не будзе, запэўнілі ў пагранічным ведамстве. Аднак у далейшым ім у абавязковым парадку неабходна будзе аформіць новыя пашпарты. Дадзенае патрабаванне распаўсюджваецца і на грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія стала жывуць за мяжой.

Дзяржаўны камітэт пагранічных войскаў паінфармаваў кіраўніцтва міністэрства транспарту і камунікацый, Беларускай чыгункі, Дзяржаўнага камітэта па авіяцыі, а таксама іншыя зацікаўленыя міністэрствы і ведамствы аб недапушчэнні выезду за мяжу абслугоўвага персаналу транспартных сродкаў замежнага накірунку па замежных пашпартах з сімволікай СССР.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ




## Колькі каштуе святочны феерверк?

Кошт навагодняга феерверка, які распачнецца ў 1.30 1 студзеня каля абеліску «Мінск – горад-герой» на праспекце Машэрава, складзе 60 мільёнаў рублёў. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення культуры Мінгарвыканкама Віктар Кураш на сустрэчы з журналістамі, якая адбылася 17 снежня ў сталічным Доме прэсы.

Працягнецца феерверк каля 40 хвілін і, паводле словаў Кураша, будзе больш відовішчным, чым летась. «Будуць новыя вадаспады, шары, фігуры, а таксама музычнае суправаджэнне», — адзначыў Кураш. Піратэхнічнымі сродкамі і ўстаноўкамі (яны закупляюцца ў асноўным у Кітаі, Карэі і Польшчы) феерверк забяспечыць таварыства з абмежаванай адказнасцю «Кальвін».

Лавінія АРЭШКА

## Беларускія спартсменкі трапілі ў аварыю

Вядомыя беларускія спартсменкі – тэнісістка Вольга Барабаншчыкава і гімнастка Яўгенія Паўліна, а таксама журналіст спартыўнай газеты «Прессбол» Сяргей Шчурко трапілі ў аўтааварыю. Інцыдэнт адбыўся 23 снежня.

Маладыя людзі вярталіся са Старых Дарог з навагодняй дабрачыннай вечарыны для дзяцей-сірот і дзяцей-інвалідаў, у якой таксама бралі ўдзел кіраўнікі футбольнага клуба БАТЭ (Барысаў) Анатоль Капскі і Юрый Пунтус, памочнік прэзідэнта Мікалай Ананьеў і алімпійская чэмпіёнка Яніна Карольчык. Непадалёк ад Слуцка аўтамабіль «таёта», за рулём якога знаходзілася Вольга Барабаншчыкава, занесла на слізкай дарозе. Машына двойчы перакулілася і апынулася ў кювеце. Вадзіцель і пасажыры атрымалі невялікія ўдары, аднак «таёта» аднаўленню не падлягае.

Дзмітрый УЛАСАЎ



УПРЫГОЖВАННІ

## Ілюмінацыя на свята

Падчас сёлетніх навагодніх святаў Мінск будзе аздабляць больш ілюмінацыі, чымсьці летась. Асноўнымі зонамі упрыгожвання гораду, як заўсёды, стануць праспекты Ф.Скарыны, Машэрава і прылеглыя да іх плошчы.

Ілюмінацыя праспекта Ф.Скарыны, якая мінулымі гадамі скончалася на скрыжаванні праспекта з вуліцай Казлова, сёлета падоўжыцца да вуліцы Філімонава. Паводле галоўнага мастака гораду Аляксея Мартынава, разнастайна ўбраныя вітрыны крамаў і дэкаратыўнае падсвятленне будынкаў на праспекце падмацоўць візуальны эфект ад ілюмінацыі.

Яшчэ адным адрозненнем ад леташніх святаў стане большая колькасць дынамічных светлавых установак па горадзе. Яны размесцяцца на плошчах Якуба Коласа, Кастрычніцкай і каля гарадскога катка, што побач з Палацам спорту на праспекце Машэрава. Усё ілюмінацыйнае абсталяванне гарадскім уладам давялося закупляць за межамі Беларусі, бо нават лямпачак, патрэбных для гірляндаў, айчынная прамысловасць вырабіць не можа.

Алена ЛАБАНАВА

## «Навагодні пірог» ад ТЮГу

Напярэдадні навагодніх святаў у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача (ТЮГ) паставілі спектакль «Навагодні пірог з незвычайным цудам».

Рэжысёрам пастаноўкі выступіў дырэктар тэатру Юрый Вута. У ролях занятыя акцёры ТЮГу, а таксама дзеці са студыі «Надзея», створанай пры тэатры, і з вакальнай групы «Смяянцы». Як паведаміў БелаПАНу Юрый Вута, апошні раз спектакль «з навагодняй тэматыкай» у ТЮГу гралі ў сярэдзіне 90-х. Сёлета вырашана вярнуцца да «чыста навагодняга» прадстаўлення, зважаючы на ягоную папулярнасць сярод маленькіх гледачоў.

Галоўны герой спектакля — «незвычайны цуд» ТЮГраня. У «Навагоднім пірагу» дзеці сустрэнуцца таксама з такімі персанажамі, як Папакемоны — бацька і сын, кухарамі — Амаль тоўстым і Зусім тоўстым, злоснымі панямі — Палярнай і Тэлефоннай, і, відома, Дзедам Марозам і Снягуркай.

Маша ПЯТРОВА

ТЭЛЕБАЧАННЕ

## БТ без футболу

Беларускае тэлебачанне, хутчэй за ўсё, не будзе трансляваць матчы чэмпіянату свету па футболе, які пройдзе ў 2002 годзе ў Японіі і Паўднёвай Карэі.

Як паведаміў БелаПАНу кіраўнік дырэкцыі спартыўных праграм НДТРК Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шпітальнікаў, тэлерадыёкампанія не ў стане заплаціць 300 тыс. даляраў за т.зв. «пакет» матчаў, купіць жа правы на паказ асобных гульняў нельга. Але ўсё ж, паводле яго ных словаў, «існуе верагоднасць таго, што пасля продажу правоў багатым краінам цану для менш заможных знізяць, прыкладам, да 50 тыс. даляраў, а тады ўжо можна будзе гаварыць пра арганізацыю трансляцый».

Шпітальнікаў сказаў таксама, што БТ запланавала 40 гадзін трансляцыі выступленняў беларускіх спартсменаў на XIX Зімовай Алімпіядзе ў Солт-Лейк-Сіці, якая пройдзе ў лютым 2002 году. Сума выдаткаў складзе 156 тыс. даляраў. Яшчэ 52 тыс. выплаціць дзяржава – за пералёт, пражыванне і экіпіроўку васьмі работнікаў тэлебачання (чатырох журналістаў, двух аператараў, інжынера і рэжысёра). Камандзіровачныя таксама выплаціць за дзяржаўны кошт.

Дзмітрый УЛАСАЎ

РУХ

## У Навагрудку ходзяць пешшу

У Навагрудку ўлады ўдвая падвысілі кошт праезду ў гарадскіх і прыгарадных аўтобусах. Праўда, павялічаны тарыф дзейнічае толькі ў пятніцы, суботы, нядзелі ды святочныя дні. Так што Новага году і Калядаў гэта датычыць непасрэдна.

Па ўсёй Беларусі, як вядома, кошт праезду ў аўтобусах падвысілі зусім нядаўна. А ў Навагрудку квіткі падаражэлі яшчэ ў два разы. У гарадскіх аўтобусах трэба плаціць не 80 рублёў, а 160. Хто мае праязныя, павінен даплачваць. Тое самае і ў раёне – плата за праезд падвойная. У працоўныя дні, калі дзейнічаюць звычайныя тарыфы, аўтобусы амаль не ходзяць. З 24 прыгарадных маршрутаў толькі на трох ёсць аўтобусны рух. У выхадныя ж можна даехаць куды заўгодна.

Сяргей МАКСІМОВІЧ

КРЫМІНАЛ

## Міліцыянта-забойцу асудзілі

Да 15 гадоў пазбаўлення волі асуджаны былы супрацоўнік Ленінскага раённага аддзелу аб'яднання «Ахова» горада Брэста Леанід Казека.

У траўні 2001 году з табельнай зброі міліцыянера быў забіты 23-гадовы жыхар Брэста. Па дадзеным факце была ўзбуджана крымінальная справа. Трагедыя адбылася падчас ужывання міліцыянерам і трыма яго знаёмымі спіртнога на КПП базы «Белімпартгандаль». Падчас застолля Леанід Казека дастаў з кабуры табельны пісталет Макарава і жартам прапанаваў выстраліць. Пасля гэтага ён прыставіў пісталет да галавы аднаго з удзельнікаў застолля і націснуў на курок. Смяротна траўмаваны 23-гадовы брастаўчанін на наступны дзень памёр у бальніцы. Суд прызнаў міліцыянера вінаватым у забойстве і асудзіў яго да 15 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. Вярхоўны суд Беларусі пакінуў прысуд Брэсцкага абласнога суду без змянення.

Валянціна КАЗЛОВІЧ

## Сцеражыцеся гірляндаў

Упраўленне міністэрства па надзвычайных сітуацыях (МНС) па Гомельскай вобласці звярнулася да жыхароў рэгіёну з просьбай зрабіць усе захады дзеля бяспечнай эксплуатацыі электрычных ёлачных гірляндаў.

Як паведамляецца ў звароце УМНС, які зараз распаўсюджваецца ў сродках масавай інфармацыі, трагіна няшчасных выпадкаў у Гомельскай вобласці адбываецца ў выніку дакранання людзей да «правілных або неізаляваных электраправадоў». Апошнім часам сярод ахвяраў ёсць і дзеці. Так, ад паражэння электрычным токам загінулі чацвёра дзяцей у веку ад 8 да 15 гадоў і яшчэ траіх у веку ад 4 да 13 гадоў цяжка траўмавала.

Ірына ШАНЦАВА

ЧЫНОЎНІКІ

## Міністэрскія апаратчыкі

Савет міністраў Беларусі вызначыў колькасць работнікаў цэнтральнага апарату міністэрстваў і іншых структур сістэмы рэспубліканскіх органаў дзяржкіравання.

Згодна з пастановай ураду, колькасць работнікаў цэнтральнага апарату міністэрстваў складзе: міністэрства архітэктуры і будаўніцтва – 149 чалавек, жыллёва-камунальнай гаспадаркі – 55, аховы здароўя – 113, замежных спраў – 349, інфармацыі – 72, культуры – 95, адукацыі – 190, па падатках і зборах – 196, па надзвычайных сітуацыях – 148, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя – 64, прамысловасці – 158, сувязі – 81, сельскай гаспадаркі і харчавання – 274, спорту і турызму – 74, статыстыкі і аналізу – 360, гандлю – 95, транспарту і камунікацый – 135, працы і сацыяльнай абароны – 320, фінансаў – 397, эканомікі – 485, энергетыкі – 55, юстыцыі – 131.

Вольга ПАЛОНСКАЯ

## Новыя махляры

Начальнік аддзелу па Цэнтральным раёне Упраўлення следчага камітэту МУС РБ па горадзе Мінску Мікалай Роўда расказаў пра новы від махлярства. 16 лістапада чалавек з пашпартам грамадзяніна Літвы ўзяў напракат у фірмы «Аўтахаўс «Атлант-М» аўтамабіль «Фальксваген-Гольф» 1998 году выпуску. Яго закладны кошт – трохі болей за тысячу даляраў. Арэнда за адны суткі – 95 тысяч беларускіх рублёў. Тэрмін дамовы аб арэндзе выйшаў 19 лістапада, але аўтамабіль не вярнулі, таму кіраўніцтва замежнага прадпрыемства звярнулася з заявай у міліцыю. Праз колькі дзён гэтага грамадзяніна затрымалі супрацоўнікі крымінальнага вышуку ГУУС Мінгарвыканкаму пры спробе атрымаць у арэнду аўтамабіль ужо ў іншай фірме па тым самым пашпарце. Затрыманы меў з сабою дакументы грамадзяніна Расіі. Пакуль удалося толькі высветліць, што ў літоўскі пашпарт уклеены фатаздымак аўтааматара-махляра. Цяпер высвятляюць, хто ён, бо няма ўпэўненасці ў тым, што расійскія дакументы сапраўды сведчаць ягоную асобу.

Ліхія прыгоды «Атланта-М» паўтарыліся 30 лістапада, калі два чалавекі з дакументамі грамадзяніна Чэхіі атрымалі напракат «Фальксваген-Пасат B5» і мікрааўтобус «Фальксваген-Каравела». Абедзве машыны 1999 году, і адпаведна іх рынкавы кошт значна вышэйшы за закладны. 3 снежня аўтамабіляў не вярнулі. Махляры, відаць, добрыя псіхолагі. Яны ведаюць, што замежнікам неяк больш давяраюць.

Аксана ЯНОЎСКАЯ

## 200 тысяч за абарону Курапатаў

Яшчэ адзін абаронца Курапатаў пакараны за сваё перакананне ў тым, што нельга будаваць аўтадарогу на касцях ахвяраў сталінскіх рэпрэсій. Суд Мінскага раёну даў Юрыю Фабішэўскаму штраф памерам 20 мінімальных заробкаў, а гэта на сёння складае 200 тысяч рублёў.

Фабішэўскі быў затрыманы і збіты АМАПам 8 лістапада ў самім урочышчы. У РУУСе Мінскага раёну на яго былі складзены пратаколы па артыкулах 166 (непадпарадкаванне патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі) і 167.1 (парушэнне парадку правядзення масавых мерапрыемстваў). Нягледзячы на аргументы падсуднага, яго прызналі вінаватым, і цяпер ён мусіць сплаціць штраф.

Віктар СЕВЕРЦАЎ

КАШТОЎНАСЦІ

## Беларусь гандлюе алмазамі

Беларусь прадае свае сінтэтычныя алмазы на замежным рынку. Пра гэта паведаміў у інтэрв'ю БелаПАНу віцэ-прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі акадэмік Пётр Віцязь. Паводле яго ных словаў, гэта невялікія партыі, таму праблемаў з сусветнымі манапалістамі пакуль не было.

Вырошчваннем сінтэтычных алмазаў у Беларусі ўсур'ёз заняліся яшчэ шэсць гадоў таму ў рамках дзяржаўнай навукова-тэхнічнай праграмы «Цвёрдыя матэрыялы і вырабы на іхнай аснове». Акадэмік Мікалай Сірата ўпершыню сінтэзаваў алмазы яшчэ ў 60-ыя гады. У часы Савецкага Саюзу Беларусь мела неабходны навуковы патэнцыял для вырошчвання алмазаў, але вытворчасць іх была размешчана ў Расіі і на Украіне, таму пасля 1991 году нам давялося закупляць тэхнічныя алмазы за мяжой.

Юрый КАСЬЯНАЎ

## Мінская даведка запрацуе лепш

Рэспубліканскае дзяржаўнае аб'яднанне «Белтэлекам» скончыла нарэшце мантаж абсталявання Вузла спецслужбаў (ВСС) у Мінску. Гэта дазволіць значна пашырыць спектр паслугаў для абанентаў і ўдасканаліць працэс іх тарыфікацыі.

Як растлумачыла начальніца даведачна-інфармацыйнай службы «09» МГТС Тацціяна Трэпуцень, яно дазволіць істотна палепшыць умовы працы ўсіх даведачна-інфармацыйных службаў, арганізаваных на базе ВСС. Функцыя вызначэння нумару абанента дапаможа адсочваць тэлефонных «хуліганаў», а функцыя размеркавання выклікаў не дазволіць пакінуць без адказу ніводнага званка абанентаў.

Таксама прыкметна зменяцца ўмовы працы гарадскіх даведачных службаў «09» і «009»; з'явіцца магчымасць арганізаваць адначасовую работу да 100 апаратаў. Пры гэтым аператары змогуць выкарыстоўваць падключэнне лічбавага галасавога інфарматара, а таксама пераключаць абанента, які звярнуўся па даведку, на нумар тэлефона шуканага абанента. Даведачная служба «09» будзе бясплатна выдаваць нумары тэлефонаў аварыйных і спецыяльных службаў, якія падтрымліваюць жыццезабеспячэнне гораду, і медыцынскіх установаў. А даведачная служба «009» будзе працаваць платна.

Ірына САЗАНОВІЧ

РЭЛІГІЯ

## Беларускамоўны малітоўнік

Напачатку наступнага году мінскае выдавецтва «Тэхналогія» плануе выдаць новы грэцка-каталіцкі малітоўнік айца Аляксандра Надсана «Госпаду памолімся» на беларускай мове.

Над складаннем гэтага малітоўніка памерам 800 старонак апостальскі візітатар для беларусаў замежжа айцец Аляксандр Надсан працаваў шмат гадоў. Ён мяркуе, што новы малітоўнік, які прыдатны для асабістага карыстання і царкоўных багаслужбаў, забяспечыць элементарныя духоўныя патрэбы беларускіх уніятаў напачатку XXI стагоддзя. У кнізе змешчаныя розныя малітвы, асобныя псалмы, акафісты і каноны, а таксама выбраныя тэксты галоўных службаў на царкоўныя святы. Для надання кнізе нацыянальнага характару айцец Надсан змясціў у ёй малітвы беларускіх святых ды аўтараў розных стагоддзяў – святога Кірылы Тураўскага і асветніка Францыска Скарыны, айца Льва Гарошкі і айца Язэпа Германовіча, а таксама «Магутны Божа» Наталлі Арсеньевай.

Першы беларускі малітоўнік – «Малая подорожная книжица» – быў выдадзены Скарынам у 1522 годзе.

Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі найбольш актыўна ў гэтым кірунку працуе рымска-каталіцкая царква, якая за 10 апошніх гадоў выпусціла каля 20 беларускамоўных малітоўнікаў для людзей рознага ўзросту і заняткаў. Для параўнання: Беларуская праваслаўная царква за гэты самы час выдала толькі адзін малітоўнік на беларускай мове.

Марат ГАРАВЫ

ПАМЯЦЬ

## Не стала ксяндза Уладзіслава Чарняўскага

Ксяндзу Уладзіславу Чарняўскаму лёс наканаваў служыць у Беларусі ў змрочныя пасляваенныя часы. З 1953 году ён служыў у Вішневе пад Валожынам. Тады ксяндзу давалі дазвол жыць і служыць толькі на адной парафіі і раз на месяц наведваццa ў нейкую іншую вёску.

У 60-я гады ксёндз Чарняўскі пачаў перакладаць ды пераклаў на беларускую мову ўсю Біблію – Стары і Новы Запаветы. Памочнік пад страхам арышту перадрукоўваў яе ў пяці асобніках на так званай «папяроснай» паперы.

У канцы 1967 году Ватыкан выбраў Уладзіслава Чарняўскага на пасаду Апостальскага адміністратара Беларусі. Ксёндз быў запрошаны ў Рым і прыняты Папам Паўлам VI. Запратэставаў, аднак, урад СССР, і ксёндз Чарняўскі так і не быў хаксэкраваны на біскупа.

Ён быў апошні з дрыйскіх манахаў-марыянаў. Пасля сёлетняй хваробы да яго прыехаў генерал Закону марыянаў і прапанаваў яму на выбар любы кляштар у любой краіне свету. Ксёндз Уладзіслаў выбраў Літву, бо з даваенных часоў належаў да Літоўскай правінцыі. Але праз два месяцы вярнуўся адтуль у Беларусь. Апошнім часам ён жыў у плябані Чырвонага касцёла ў Мінску. А памёр у Вішневе, з якім была звязаная большая частка ягонага жыцця.

Вечная яму памяць.

НАША ПРЫРОДА



Фота IREX/ProMedia

Ёлкі ў лесе ўсё роўна прыгожэй за ссечаныя і аздобленыя на Новы год цацкамі і гірляндамі

# Вітко замест Ганчарыка

*Сёння праходзіць нечарговы пленум Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, на якім будзе абірацца новы старшыня ФПБ. Хутчэй за ўсё, ім стане Франц Вітко, які дагэтуль займаў пасаду першага намесніка старшыні.*


Фота Ул.ШЛАПАКА

Дзеючы прафсаюзны лідэр Уладзімір Ганчарык заявіў пра сваю адстаўку на прэзідыуме Федэрацыі 22 снежня. Афіцыйнае тлумачэнне адстаўкі – абранне У.Ганчарыка намеснікам старшыні Усеагульнай канфедэрацыі прафсаюзаў (УКП) краінаў СНД па Малдове, Украіне і Беларусі.

Адметна, што Уладзімір Ганчарык прыняў рашэнне сысці неўзабаве пасля прыняцця Саветам міністраў пастановы «Аб захадах па абароне правоў членаў прафсаюзаў» і адразу пасля чутак, што А.Лукашэнка абяцае падпісаць указ аб нацыяналізацыі маёмасці ФПБ, калі яе старшынём застанецца У.Ганчарык.

Свой сыход каментуе сам Уладзімір Ганчарык.

— *Ці звязаная Вашая адстаўка з магчымым з'яўленнем указу аб нацыяналізацыі маёмасці ФПБ?*

— Такія чуткі сапраўды ходзяць, але мая адстаўка і гэты праект указу ніяк не звязаныя. Для нас важна прымусіць уладу прыслухацца да таго, што кажуць прафсаюзы — гэта першае. А па-другое, калі ўжо я стаў такім раздражняльнікам, то мая адстаўка – карт-бланш для ўлады паступіць інакш, спыніцца, да чаго я і заклікаю, падумаць над наступствамі, бо наступствы ў сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, якая пагаршаецца дзень пры дні, будуць не лепшыя. Зараз вельмі актыўна ідзе збор подпісаў за адмену пастановы Савета міністраў аб ліквідацыі механізму безнаяўнага пералічэння прафсаюзных складак – мяне гэта радуе.

— *Уладзімір Іванавіч, ізноў вяртаюся да праекту ўказу аб нацыяналізацыі. Што гэта можа азначаць на практыцы?*

— Па-рознаму можна праводзіць нацыяналізацыю. ФПБ ад уласнасці мае надзвычай нязначны даход, бо гэтая маёмасць – санаторыі, турысцкія базы, спартыўныя школы – носіць сацыяльны характар. Практычна мы не маем значных паступленняў ад турбаз, а ад спартыўных, іншых клубаў увогуле нічога не маем. Цяпер больш актуальнае пытанне – захаваць існуючы парадак пералічэння складак. Але ўрадавая пастанова – і, не дай Бог, будзе ўказ пра нацыяналізацыю – носіць яўна неправавы характар. Больш за тое, няўжо ўлада не можа пралічыць наступствы ад падобных крокаў унутры краіны і звонку? У такім выпадку ніхто сур'ёзна не будзе ўспрымаць Беларусь як дэмакратычную прававую дзяржаву. Калі такая палітыка працягнецца, ніякія інвестары ў Беларусь не прыйдуць. Больш за тое, міжнародныя арганізацыі цудоўна разумеюць, што цяперашняя сітуацыя – праблема не адных прафсаюзаў, гэта парушэнне правоў працоўных, правоў чалавека.

Мы звярнуліся таксама да Франца Вітко, якога сёння, хутчэй за ўсё, абяруць новым старшынём ФПБ.

– *У выпадку абрання якія будуць Вашыя першыя дзеянні?*

– Наша агульная задача — перайсці ад канфрантацыі з уладай да сацыяльнага партнёрства на ўмовах, якія прапісаныя ў нашым заканадаўстве. У Працоўным кодэксе абазначаныя восем прынцыпаў сацыяльнага партнёрства, галоўныя з якіх – незалежнасць і раўнапраўе.

Задача прафсаюзаў – не быць адарванымі ад рэальнасці, а выражаць волю працоўных, акумуляваць гэтую волю і дапамагаць уладзе пазбягаць памылковых рашэнняў.

Прафсаюзы не замахваюцца на паўнамоцтвы ўлады. Але ж улічваць пазіцыю прафсаюзаў – гэта святая задача дзяржавы. У гэтай сувязі хачу прыгадаць словы Аляксандра Квасьнеўскага: «Памыляецца той, хто думае, што прафсаюзы не павінны займацца палітыкай. Не маюць рацыі і тыя, хто мяркуе, што прафсаюзы павінны займацца палітыкай. Рацыю маюць тыя, хто лічыць, што прафсаюзы павінны дыктаваць палітыку, калі яны выражаюць волю працоўнага люду».

— *Ці бачыце Вы механізм, які б вярнуў уладу на шлях сацыяльнага партнёрства?*

— Развіццё падзеяў будзе, з аднаго боку, падштурхоўваць уладу да пошуку сацыяльных амартызатараў, з другога боку, прафсаюзы нават у гэтай крытычнай сітуацыі больш настойліва будуць бараніць інтарэсы працоўных. Калі мы кажам, што абвастрэнне сітуацыі паміж Федэрацыяй і ўладай адбываецца на вышэйшым узроўні, то гэта вялікая памылка. Глыбінныя прычыны знаходзяцца ў стане эканомікі, сацыяльнай сферы...

— *Гэта значыць, што палітыку Вашага папярэдніка істотна мяняць не будзеце?*

— Справа не ў асобах, справа — у асэнсаванні адказнасці за тую пасаду, на якую цябе вылучаюць, за вырашэнне тых праблемаў, якія даўно пераспелі. Асабісты пункт погляду, пазіцыя новага старшыні прафсаюзаў будзе, вядома, мець нейкае значэнне, але старшыня будзе вымушаны праводзіць у жыццё агульную лінію Федэрацыі прафсаюзаў.

**Даведка НАШАЙ СВАБОДЫ.** Франц Пятровіч Вітко нарадзіўся ў 1951 годзе на хутары ў Глыбоцкім раёне на Віцебшчыне ў шматдзетнай сям'і. Будучы апошнім, сёмым дзіцем у раскулачанай сям'і, Франц Вітко вельмі рана — яшчэ не было і 6 гадоў — пайшоў у школу. У 15 гадоў скончыў сярэднюю школу і паступіў у Інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. Пасля адпрацаваў тры гады ў калгасе. Адтуль Франца Вітко перавялі на камсамольска-партыйную працу.

З 1988 па 1991 год Франц Вітко вучыўся ў аспірантуры ў Балгарыі, дзе і абараніў навуковую дысертацыю. Пасля вяртання месяц прапрацаваў у ЦК КПБ, ажно грымнуў путч. Быў беспрацоўным. З 1992 году працуе ў структурах ФПБ.

**Рыгор БУЯН**

**СУДЫ**

# Праўда аб «праўдзе»

Ганаровы старшыня грамадскага аб'яднання Саюз палякаў Беларусі Тадэвуш Гавін не змог абараніць праз суд свае гонар і годнасць.

18 лістапада 2000 г., у дзень адкрыцця надзвычайнага з'езду Саюза палякаў, газета «Гродзенская праўда» надрукавала ліст чытача. У ім адмоўным героем зроблены Т.Гавін. У публікацыі гаварылася, што пры будаўніцтве польскай школы ў Гродне за чужы кошт можна і катэдж сабе збудаваць, і грошы ў кішэню паккласці. Т.Гавін звярнуўся ў суд. Ён патрабаваў назваць прозвішча аўтара і надрукаваць абвяржэнне і просьбу аб прабачэнні.

Публікацыя была падпісаная выдуманым прозвішчам «Ежы Кручынскі». Рэдакцыя ўрэшце прызналася, што сама падрыхтавала ліст.

Тадэвуш Гавін прадставіў суду дакументы аб тым, што польскі бок расплочваўся за школу напраскі. Ён таксама прадставіў падзячныя граматы, медаль і дакумент аб наданні яму дэлегатамі надзвычайнага з'езду годнасці «Ганаровага старшыні Саюза палякаў Беларусі», якім ён кіраваў 12 гадоў. Карацей, сведчанні яго станоўчай працы на гэтай пасадзе, а не адмоўнай, як сцвярджалася ў газетнай публікацыі.

Рэдакцыя напачатку прызнала , што звесткі ў публікацыі няпраўдзівыя, але яны, маўляў, не датычаць яго асабіста. Але пад заслону прадстаўнік рэдакцыі раптам паведаміў суддзі, што не прызнае аніводнага закіду з боку Т.Гавіна. Прадстаўнік папрасіў суд адмовіць Гавіну. Што суддзя і зрабіў. А Гавіну сказалі: публікацыя, маўляў, была надрукавана ў «рамках перадз'ездаўскай дыскусіі».

**Алесь ГРЫБ**

# Хто давёў да самагубства Андрэя Зайцава?

*Трагедыя прыйшла ў дом гамяльчанкі Ларысы Мікалаеўны Зайцавай 20 снежня, калі ў краіне афіцыйна адзначаўся Дзень супрацоўнікаў дзяржаўнай бяспекі.*

Ларыса Мікалаеўна вярнулася з працы а сёмай гадзіне вечару. Адчыніла дзверы кватэры – і жахнулася. Цела яе 24-гадовага сына Андрэя вісела на перакладзіне, дзе звычайна сын падцягваўся.

Ужо калі Ларыса Мікалаеўна неяк адолела першапачатковае здранцвенне, абрэзала вяроўку з нежывым целам Андрэя, то звярнула ўвагу, што на століку ў калідоры ляжала касета з запісам тэлефоннай размовы сына з супрацоўнікам абласнога ўпраўлення КГБ і заява ў Беларускі Хельсінкскі камітэт пра акалічнасці вярбоўкі ў якасці сакрэтнага пастаўшчыка інфармацыі.

Маці Зайцава сцвярджае, што ніякіх слядоў беспарадку ў кватэры яна не заўважыла. Аднак лічыць, што нешта надзвычайнае ўсё-такі адбылося: ці то нехта тэлефанаваў, ці можа нават наведаў Андрэя дома...

Да абеду Андрэй хадзіў з маці на рынак, купіў там сабе цыгарэт і новую запальнічку. Выразна ў гэты дзень бяды не прадбачылася, хаця апошнім часам Андрэй быў неспакойны.

– Я бачыла, – засведчыла маці Зайцава, – што Андрэй чагосьці баіцца. А чаго баіцца, ён раней не казаў. Толькі два дні таму Андрэй сказаў, што яго агітавалі з КГБ стаць правакатарам.

Пра тое, што Андрэй не казаў да апошняга часу нават маці, крыху раней дазналіся ягоныя найбліжэйшыя паплечнікі. Андрэй быў звязаны з незарэгістраваным рухам «Зубр», і, як даведаліся сябры, яго спрабаваў завербаваць супрацоўнік УКГБ.

Першая сустрэча з гэтым супрацоўнікам, які называўся Алесем Еўсцігнеевым, адбылася пры канцы лістапада ў ваенкамаце Савецкага раёну, куды нечакана выклікалі 24-гадовага Андрэя Зайцава нібыта ўдакладніць ягонае месца жыхарства.

За чатыры дні да самагубства Андрэй распавёў пра згаданую сустрэчу і мне.

З запісу на дыктафоннай стужцы:

Андрэй Зайцаў: *«Малады чалавек сядзіць, я заходжу. За мной зачыніліся дзверы. І першае, што ён зрабіў, не называючы сябе, паклаў кайданкі на стол і кажа: «Да нас дайшла інфармацыя, што ў цябе дома ёсць зброя і боепрыпасы». Я адказваю: «Выбачайце, вы не назвалі сябе». Тады ён назваўся: «Старшы лейтэнант Еўсцігнееў Алесь Віктаравіч». Я стаў далей казаць, што ў мяне нічога не было і няма: «Калі хочаце, паехалі да мяне дахаты, зробіце вобшук». Ён мне ў адказ: «Нічога страшнага, мы знойдзем, усё, што трэба, знойдзем». Ён стаў мне пагражаць: «Ты вось займаўся перадвыбарчай кампаніяй, звязаны з «Зубрамі». Я ў адказ: «А што тут такога?» Ён мне: «На табе ж вісіць крымінальная справа!» Кажу: «Калі вісіць, я за гэта сам адказваць буду». Ён: «Я табе прапаную: альбо ты супрацоўнічаеш з намі, і я табе дапамагу, каб ты не сеў, альбо ты сядзеш за краты, і табе там будзе яшчэ горш».*

За Андрэем Зайцавым сапраўды цягнулася даволі цьмяная крымінальная справа пра блізкія адносіны з дзесяцікласніцай. Дзяўчына неаднойчы прыходзіла да Андрэя, ездзіла з ім на лецішча і нават наважвалася юрыдычна аформіць сваё пражыванне ў прыватным доме бабулі Андрэя. Заяву ў суд падалі бацькі дзесяцікласніцы.

Незадоўга да 12 снежня, калі адбыўся закрыты суд, Андрэй распавядаў сябрам, што заяву ў суд бацькі дзяўчыны нібыта забралі. Аднак туды паступіла новая заява нейкай трэцяй асобы. Раённы суд пакараў Зайцава трыма месяцамі арышту, але гэты вырак Андрэй збіраўся аспрэчыць у вышэйшай судовай інстанцыі.

Паводле расповеду Зайцава, заведзеная крымінальная справа паслужыла падставай для шантажу і вярбоўкі. Супрацоўнік УКГБ, які назваўся Алесем Еўсцігнеевым, даў Зайцаву свае нумары тэлефонаў: 521-53-29, новы – 79-23-29 і пейджэр: 72-12-44, абанент 215862.

Прыкладна за тыдзень да самагубства Зайцаў запісаў тэлефонную размову з тым, хто называў сябе Еўсцігнеевым. Прывяду частку гэтай тэлефоннай размовы.

*Заканчэнне на стар.6*

# У Крамлі ўсталявалі лёсавызначальныя рубяжы

*Не прайшло і паўгода, як беларускі кіраўнік зноў прыляцеў у Маскву. Цягам паўтара сутак Лукашэнка спрабаваў паставіць усе кропкі над «і» ў пытаннях пабудовы адзінай саюзнай дзяржавы. Ва ўсякім разе, менавіта так ён сфармуляваў мэту гэтага прыезду, назваўшы яго таксама лёсавызначальным. Пра кропкі над «і» ён ізноў загаварыў у Крамлі, дзе засядаў Вышэйшы дзяржсавет Саюзу Беларусі і Расійскай Федэрацыі. Відаць, пагадзіўшыся з «лёсавызначальнасцю» падзей, Пуцін назваў іх рубежнымі.*

Нельга было не звярнуць увагі на тое, што, у адрозненне ад мінулай гаворкі з Пуціным ля крамлёўскага каміну, калі Лукашэнка выглядаў як быццам чымсьці напужаны, гэтым разам у ім праглядалася нават нейкая ганарлівасць. Некаторыя назіральнікі гадалі наконт прычын такіх вонкавых метамарфозаў. Адны папросту схіляліся звязваць гэтую з'яву з настроем кіраўніка ў дадзены момант, а іншыя спрабавалі патлумачыць надзвычайную Лукашэнкаву жорсткасць перад Пуціным, ці прынамсі публічную дэманстрацыю яе, вынікамі размовы з Прымаковым, які напярэдадні прыязджаў у Мінск.

Кажуць, што дасведчаны акадэмік-разведчык, які ачоліў у свае 72 гады Гандлёва-прамысловую палату, мог расказаць Лукашэнку пра ўсю кухню сітуацыі ў Крамлі. У прыватнасці, пра хісткасць пазіцыяў тых, што ачаляюць крамлёўскую адміністрацыю і ўрад. Дый пра праблемы самога Пуціна. Такім чынам, Лукашэнка, відаць, палічыў магчымым падкрэсліць трываласць свайго становішча пасля прэзідэнцкіх выбараў. А што да становішча персанажаў, якія дзейнічаюць у крамлёўскіх інтрыгах, то агульнавядома, як «любіць» Прымакоў галаву крамлёўскай адміністрацыі. Зрэшты, менавіта Валошына экс-прэм'ер лічыць сваім ворагам, які паспрыяў сыходу Прымакова з ураду. Трэба адзначыць і тое, што кіраўнік крамлёўскай адміністрацыі Валошын хоча быць нязменным удзельнікам перамоў Пуціна і Лукашэнкі. Так было і мінулым, і гэтым разам.

Не сакрэт, што якраз на ўзроўні адміністрацыяў і ўрадаў дзвюх краін узаемаадносіны пакідаюць жадаць лепшага. У Мінску не ўспрымаюць ні чыноўнікаў з адміністрацыі, ні рэфарматараў з ураду саюзнае дзяржавы. Іх лічаць тормазам такой інтэграцыі, як яе разумее беларускі кіраўнік. Усе расійскія СМІ адзначылі, што, бадай упершыню пры Пуціну, паміж двума стратэгічнымі саюзнікамі на цяперашнім паседжанні іх Вышэйшае дзяржаўнае рады публічна выявіліся досыць розныя падыходы да пабудовы саюзнае дзяржавы. Крэмль супраць фарсіравання гэтага працэсу і за планамерную, сістэмную інтэграцыю эканомік Расіі і Беларусі. Чаканага абмеркавання заканадаўчага акту, які мог бы стаць асноваю саюзнага парламенту, так і не адбылося. Гэтае пытанне адсутнічала нават у парадку дня паседжання Вышэйшага дзяржсавету. Зрэшты, як і пытанне пра планавую ратацыю старшыні гэтага савету. Дагэтуль, акрамя Лукашэнкі, ніхто ім не быў. Цікава, што з расійскага боку толькі спікер Дзярждумы Селязнёў спрабаваў дапамагчы беларускім прадстаўнікам унесці пытанне пра заканадаўчы акт у парадак дня. Але не выйшла. Помніцца, праз таго ж Селязнёва нядаўна рабіліся спробы зацвердзіць на цяперашняй сустрэчы Пуціна з Лукашэнкам дату рэферэндумаў у абедзвюх краінах аб брацкай саюзнай дзяржаве. Пакуль таксама не выйшла. Як адзначаюць расійскія назіральнікі, Крэмль не спяшаецца з палітычным складнікам дзяржавы магчымае будучыні, бо не жадае, каб Лукашэнка мог прадстаўляць на міжнароднай арэне абедзве краіны. Унікальнасць такое дзяржавы ў тым, што яна прадугледжвае захаванне суб'екту міжнароднага права абедзвюх дзяржаваў. А як могуць сустрэць на Захадзе функцыянераў віртуальнае саюзнае дзяржавы... варта прыгадаць апошнюю паездку саюзнага дзяржсакратара Барадзіна ў ЗША.

Даволі незвычайнаю была канцоўка цяперашняй размовы ў Крамлі. Насуперак традыцыі, абодва прэзідэнты так да прэсы і не выйшлі. Сутнасць падзеі паспрабаваў растлумачыць журналістам міністр Герман Грэф. Ён сказаў, што быў прыняты ясны план супольных дзеянняў. Дакладней, першая яго частка. У першую чаргу ў ім рэгламентаваліся дзеянні па уніфікацыі нацыянальных заканадаўстваў. Дасюль гэты працэс найбольш нагадваў гульню ў кошкі-мышкі. Лічыцца, што больш у гэтай гульні шанцуе надалей Лукашэнку. А што да такога атрыбута дзяржавы, як валюта, то, па словах Грэфа, у 2005 годзе мае з'явіцца новая валюта – расійскі рубель. Ясна, што ніякага трэцяга эмісійнага цэнтру ўжо не будзе. Помніцца, Лукашэнка нават разважаў, што такі цэнтр мог бы быць «недзе пасярэдзіне». Напрыклад, у Смаленску. У Крамлі такія развагі заўсёды ўспрымаліся як фантазіі.

Ацэньваючы вынікі свайго візіту ў Маскву, Лукашэнка назваў іх «большымі за чаканыя». Ёсць падставы меркаваць, што такая ацэнка магла тычыцца сустрэч, якія адбываліся не ў Крамлі, а з кіраўнікамі кампаній «Сургутнафтагаз» і «Слаўнафта». На думку экспертаў, праз гэтыя, а можа і іншыя структуры Расія зможа больш экспартаваць на Захад нафты праз нафтаперапрацоўчыя заводы ў Мазыры і Наваполацку. Пры гэтым так званы экспарт у Беларусь будзе большы за квоты, якія Масква абяцала *OPEC*. Ясна, што межы такой сумнеўнай палітыкі, з пункту гледжання міжнародных абавязанняў Расіі, вызначаюцца ў Крамлі. Так што ў гэтай ролі, трэба думаць, Лукашэнка яшчэ патрэбны. Але разам з тым выглядае цікаваю дата ўвядзення адзінае валюты. Прагназуецца, што да 2005 году Пуцін ужо будзе пераабраны прэзідэнтам Расіі, а ў Лукашэнкі скончыцца прэзідэнцкі тэрмін. Калі, вядома, нейкі чарговы плебісцыт зноўку не зменіць гэтых тэрмінаў. А пакуль, як умовіліся ў Крамлі, наступнае паседжанне Вышэйшага дзяржсавету Саюзу Беларусі і Расійскай Федэрацыі павінна адбыцца ў лютым наступнага году. На гэтым паседжанні спікер Дзярждумы Селязнёў мае зрабіць даклад пра ўсё той жа заканадаўчы акт – правобраз саюзнай Канстытуцыі. Пакуль абвешчана толькі пра гэтае пытанне з парадку дня. Ці адбудзецца доўгачаканая ратацыя старшыні Вышэйшага дзяржсавету, пакуль застаецца невядомым.

**Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ**

# Самы помны Новы год

## *Перадсвяточныя згадкі*

*На пытанне, які ў іхнім жыцці самы помны Новы год, ці адзначалі раней і ці адзначаюць яны зараз Каляды, нам адказалі некалькі вядомых у краіне асобаў.*

**Яніна КАРОЛЬЧЫК, алімпійская чэмпіёнка па штурханні ядра, лепшая спартсменка 2001 году ў Беларусі:**



— Два гады таму мы з дзяўчатамі з спортінтэрнату «Дынама», у якім я тады жыла, сустракалі Новы год вельмі весела, а пасля ішлі на гарадскую ёлку і яшчэ доўга хадзілі па святочным начным горадзе.

Я сама каталічка, і зараз святкую Нараджэнне Хрыстова, і пры СССР святкавала, прычым для мяне гэтае свята значна больш важнае, чым Новы год. Мае бацькі-каталікі так мяне выхавалі, у такіх традыцыях.

**Міхаіл ПАДГАЙНЫ, міністр інфармацыі:**



— Я ж вырас у вёсцы, а там Каляды заўсёды адзначалі. І калядавалі вечарамі, і брамкі ў дзяўчат за ваколіцу адносілі. А Новы год найбольш запомніўся апошні. Мінулы. Выбраліся ўсёй сям'ёй на дачу, сустракалі мілbackup ніум каля жывой ёлкі.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ, віцэ-спікер Вярхоўнага Савета:**



— У 60-ых мы са стрыечным братам перад Новым годам паехалі ў лес, каб ёлку прывезці, ды заблукалі. Вярнуліся дадому з прыгодамі толькі аб 11-ай гадзіне, калі нас не чакалі ўжо. Было весела. 2000 год я сустракаў у Вашынгтоне. І там я бачыў, як насупраць Капітолія ўсталёўвалі, як мы з сябрам жартавалі, зорку ўзыходзячага капіталізму. Я вырашыў, што туды ні глядзець, ні святкаваць не пайду, бо гэта дужа нагадвала нашыя камуністычныя аздобы. Хоць тэхнічна было зроблена значна-значна лепей. Таму я сядзеў і сустракаў Новы год у кватэры, якую здымаў. Што да Калядаў, то пакуль была жывая бабка, яна іх адзначала, потым маці пераняла, цяпер – сястра. Штогод Каляды па-беларуску – з абрусам, з сенам, і толькі посная ежа: кісель, квас, селядзец, рыба, аладкі. У мяне дома такога не бывае, але Каляды для мяне – вельмі вялікае свята.

**Эдуард МАЛАФЕЕЎ, галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболе:**



— Самыя памятныя ў мяне ўсе Новыя гады пачынаючы з 1988 года, калі 31 снежня ў мяне нарадзіўся ўнук. З таго часу ўсе навагоднія святы ператварыліся ў простыя сямейныя, цёплыя святкаванні, кожнае з якіх прыемнае па-свойму.

Цяпер я, безумоўна, адзначаю Каляды, як і раней, але тады гэта было не так гучна. Мая бабуля заклала звычай святкавання праваслаўных Калядаў у сям'і, але гэта хутчэй даніна традыцыі, чым святкаванне. Я лічу, Бога заўсёды патрэбна трымаць у душы, не зважаючы ні на што. Я сам вельмі набожны чалавек.

**Рыгор БАРАДУЛІН, вядомы паэт і пісьменнік:**



— Усе самыя памятныя тыя, што праведзеныя дома, з мамай. Тыя гады, калі помню сябе малым, тады была мая мама, мая малая радзіма, чыстая, бялюткая... Уражлівыя першыя пасляваенныя гады, першая ёлка, самаробныя цацкі, першая ўрачыстасць, радасць пасля вайны. Каляды адзначалі па ўсіх традыцыях. Я ж сам з Полаччыны, дзе карані паганства самыя глыбокія. Увогуле беларускую нацыю называюць і цяпер хрышчонымі паганцамі. У гэтае свята клалася сена на стол, пакрывалася абрусам. Звычайна ў гэты час, як нейкі цуд, цялілася карова, малако свежае было... Я быў настолькі захоплены святам, здавалася, вось падыду да ясляў, а там Хрыстос маленькі ляжыць.

**Лявон ВОЛЬСКІ, вядомы музыка, саліст гурта «НРМ»:**



— Такіх гадоў было некалькі. Два гады таму адзначалі на Мядзельшчыне ў кампаніі блізкіх людзей. Глухая вёсачка. Нязвыкла: няма гарадскога шуму, тлуму, паўсюль ціха, спакойна. Каталіся на лыжах, карацей, актыўна адпачывалі. Самы экстрэмальны — 94 год: вырашылі сустрэць Новы год з кампаніяй за горадам пад елачкай. Праўда, хацелі паспець на апошнюю электрычку. Прыехалі, адзначылі. А прыйшоўшы на станцыю, даведаліся, што цягнік той адмянілі. Вось так усю ноч і прагадалі на станцыі да ранку, ад станцыі да станцыі.

Каляды — гэта сямейнае свята, рэлігійнага характару. Новы год — больш свецкае, для моладзі, у Польшчы яго называюць Сільвестрам. Каляды пачалі адзначаць больш грунтоўна, калі прыйшла перабудова. А раней адзначалі ў нетрадыцыйнай вельмі форме.

**Аляксандр КАРШАКЕВІЧ, легендарны гандбаліст, цяпер памочнік галоўнага трэнера нацыянальнай зборнай:**



— Самая памятная сустрэча Новага году – з 1996-га на 1997-мы. Тады я сустрэў сваю будучую жонку. Гэта была для мяне найбольш шчаслівая падзея ў жыцці.

Святкаванне Калядаў, усіх іншых святаў у мяне было немагчымае па той простай прычыне, што, прыкладам, 2 студзеня ў нас заўсёды пачынаюцца зборы ў Стайках, так што максімум святкавання – келіх шампанскага – і спаць, бо рэжым. Адзіныя святы, якія нам давалі хоць неяк адзначыць у часы СССР, калі я актыўна гуляў у гандбол, былі Новы год і 8 сакавіка.

# Полацкую Сафію перадаюць РПЦ

*Камітэт у справах рэлігіі пры Савеце міністраў выступіў з афіцыйнай прапановай: да 1 сакавіка наступнага году перадаць полацкі Сафійскі сабор Расейскай Праваслаўнай Царкве.*



Маскоўскі патрыярхат у асобе Патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі Філарэта ўжо не першы год дамагаецца перадачы сабе славутага храму. Есць, аднак, некалькі сур'ёзных чыннікаў, якія не дазваляюць гэтага зрабіць.

Першае, з юрыдычнага гледзішча Сафійскі сабор не з'яўляецца праваслаўным храмам — гэта грэка-каталіцкая бажніца, збудаваная ў сярэдзіне XVIII стагоддзя на рэштках узарванага расейскімі войскамі старажытнага храму. Другое, у саборы месціцца найлепшая ў краіне канцэртная заля і археалагічны музей. Ну, і трэцяе — перадача сабору адной з канфесіяў выкліча грамадскія забурэнні ды міжканфесійныя канфлікты, тым болей, што свае правы ў гэтым плане адстойваюць і полацкія грэка-каталікі.

Можна смела прадказаць, што з перадачай храму Маскоўскай патрыярхіі Полацк пазбудзецца сваёй галоўнай культурніцкай дамінанты; інтэр'ер храму найвідавочна будзе перапланаваны паводле праваслаўных канонаў і з яго прыбяруць арганы — унікальны інструмент, які быў створаны чэшскімі майстрамі адмыслова для Сафійскага сабору.

За шаснаццаць гадоў свайго існавання канцэртная заля Сафіі сталася ведамая далёка за межамі Беларусі; тут штогод ладзіліся музычныя фэсты з удзелам найлепшых еўрапейскіх музычных калектываў і выканаўцаў, а маэстра Співакоў назваў акустыку Сафійскага сабору адной з найлепшых у свеце. Якім бы ні было рашэнне ўладаў, апошняе слова тут павінны сказаць полацкая грамадскасць і тыя людзі, якія пры канцы 1970-х задарма, вольным часам, працавалі на адбудове зганьбаванага бальшавікамі храму. Як сведка той адбудовы мушу сказаць, што ніводнага з тых, хто патрабуе сёння аддаць сабор Маскоўскай патрыярхіі, там не было.

**Вінцэсь МУДРОЎ**
**Радыё «Свабода»**

# Калядная канферэнцыя

У Оршы прайшла навукова-краязнаўчая канферэнцыя, традыцыйна прымеркаваная да даты надання гораду Магдэбургскага права ў снежні 1620 году.

Змест дакладаў і паведамленняў, з якімі выступілі музейшчыкі ды краязнаўцы з гораду і раёну, прыкладна пароўну падзяліўся паміж тэмамі Вялікай Айчыннай вайны, этнаграфіі і фальклору, творчасці славутых землякоў ды аховы архітэктурных помнікаў. Апошняя тэма прагучала ў Оршы надзвычай актуальна ў святле апошняй у гэтай справе пастановы ўраду, які пазбавіў статусу помнікаў і, адпаведна, клопату дзяржавы будынкі, пастаўленыя пад ахову рашэннямі мясцовых органаў улады. У выніку ў Оршы засталося толькі сем афіцыйна прызнаных помнікаў архітэктуры. Як гэта часта апошнім часам бывае, нечаканa прынятае рашэнне цэнтру выклікала сур'ёзныя праблемы на месцах. У прыватнасці, Занальны дзяржаўны архіў у Оршы, які праводзіць зараз грунтоўную рэканструкцыю свайго будынка, былога кляштара трынітарыяў XVIII стагоддзя, можа мець складанасці з разлікамі па каштарысах з-за іншага парадку налічэння падатку на дабаўленую вартасць. Комплекс калегіума езуітаў, на рэстаўрацыю якога ўжо падрыхтаваная дакументацыя, болей не лічыцца помнікам архітэктуры і, значыць, не падлягае рэстаўрацыі. Жылы будынак кляштара францысканцаў і шмат іншых помнікаў таксама страцілі дзяржаўную ахову да той пары, пакуль не будуць падрыхтаваныя новыя спісы для зацвярджэння Саветам міністраў. Паводле словаў намесніка старшыні Аршанскага гарадскога фонду аховы помнікаў Віктара Лютынскага, пастанова ўраду патрабуе сабраць прапановы з месяцў па новых спісах архітэктурных помнікаў да 14 снежня, але цэнтральныя ўлады не спяшаюцца дасылаць у Оршу інструкцыі ды формы для іх складання.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

## ДАТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЁСЫ

### 28 снежня

**1879**. У Шатландыі абрынуўся мост праз раку Тай, па якім ехаў цягнік Эдынбург—Дандзі. У ледзяной вадзе знайшлі 90 трупаў.

**1926**. Памёр ад лейкеміі і запалення крыві аўстрыйскі паэт Райнер Марыя Рыльке. На надмагіллі паэта выбіты загадкавы надпіс — радок з ягонага верша: «О ружа, узнёслая супярэчнасць, жаданне быць нічыйным сном праз усе стагоддзі» (хвароба Рыльке пачалася з таго, што параніў пальцы аб шыпы, калі зразаў у садзе ружы).

**1991**. Урад Беларусі прыняў пастанову пра «лібералізацыю» (вызваленне з-пад дзяржаўнага кантролю) цэнаў на спажывецкія тавары.

### 29 снежня

**1766**. Нарадзіўся вынаходнік непрамакальнае вопраткі шатландскі фізік Чарльз Макінтош.

**1816**. Нарадзіўся нямецкі фізіёлаг Карл Людвіг, вынаходнік крывянога гадзінніка, якім можна мераць хуткасць бегу крыві ў целе.

**1896**. Нарадзіўся выбітны мексіканскі мастак-манументаліст Давід Сікейрас. Лічыў, што «мастак павінен быць найперш грамадзянінам, павінен жыць жыццём свайго народа». У 1940 г. наладзіў няўдалы замах на жыццё Троцкага.

**1911**. Сунь Ятсен абраны першым прэзідэнтам Кітая.

**1921**. На Усебеларускім з'ездзе паляўнічых у Мінску заснаваны Беларускі паляўнічы саюз (з 1955 г. — Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў).

**1936**. Беларускія ўлады арыштавалі і саслалі ў канцлагер пробашча Камена-Губінскага касцёла Я.Барадзюла, які адмовіўся быць іхнім сакрэтным агентам. Калі праз 5 гадоў ксёндз вярнуўся і стаў пробашчам віцебскіх касцёлаў св.Антонія і св.Барбары — яго зноў арыштавалі, і так паўтаралася некалькі разоў. Дазвол замацоўваць пастырскай дзейнасцю Барадзюля атрымаў толькі ў 1978 годзе.

**1951**. У ЗША з'явіўся ў продажы кампактны (транзістарны) пратэз вуха.

**1986**. На эміграцыі памёр улюбёны кінарэжысёр савецкіх інтэлектуалаў Андрэй Таркоўскі. Найлепшым стымулам для творчай думкі лічыў цэнзуру, а галоўнай перашкодаю — клопат пра грошы.

### 30 снежня

**1905**. Царскія войскі падчас разгону сялянскага бунту ў вёсках Опаль і Лядавічы (Іванаўскі раён) забілі 5 і цяжка паранілі 6 чалавек.

**1916**. Змоўшчыкі забілі фаварыта царскае сям'і Рыгора Новых, больш вядомага пад мянушкаю Распуцін, якую атрымаў за распусныя паводзіны. Адной з прычынаў замаху было тое, што гэты «шэры кардынал» намаўляў цара спыніць вайну і заключыць саюз з Германіяй. Распуцін прадказаў, што следам за ім загіне ўся дынастыя Раманавых — і не памыліўся.

**1941**. Куба і дробныя цэнтральнаамерыканскія краіны абвесцілі вайну Германіі, Японіі і Італіі.

**1975**. У вёсцы Жупраны Ашмянскага раёну ўсталяваны помнік Францішку Багушэвічу.

**1976**. Нарадзіўся старшыня Маладога Фронту, «ды-джэй Адраджэння» Павел Севярынец.

### 31 снежня

**1491**. Нарадзіўся французскі навігатар Жак Карцье, які адкрыў Канаду і заснаваў Манрэаль.

**1911**. Марыя Складоўская-Кюры атрымала другую Нобелеўскую прэмію (па хіміі; першая была па фізіцы). Памерла ў 1934 г. ад наступстваў апраменьвання: яна амаль голымі рукамі перапрацавала 11 тонаў руды, каб атрымаць крапельку новага металу радыя, у 3 млн. разоў больш радыеактыўнага за ўран.

**1950**. Найвышэйшай навагодняй хваінаю была ёлка, усталяваная перад Наргейцкім гандлёвым цэнтрам у Сіэтле: яе вышыня дасягала 67,37 метра.

**1979**. У гэтым годзе Беларусь паводле аб'ёму прамысловае вытворчасці перасягнула Аўстрыю, Балгарыю, Венгрыю.

**1985**. Дзяўчынцы Трэйсі Нельсан, якая нарадзілася ў Чэстэрфілдзе (Англія), бацькі вырашылі даць рэкордную колькасць іменаў — 140. Улады адмаўляліся запісваць усе іх у пасведчанне аб нараджэнні, але праз год усё ж пагадзіліся запісаць іх у асобным дакуменце.

### 1 студзеня

**1432**. Папа рымскі Яўген IV увёў у афіцыйныя дакументы касцёлу перанятае неўзабаве і цывільнымі ўладамі еўрапейскіх краінаў летазлічэнне «ад Нараджэння Хрыстовага» (раней гады лічыліся «ад стварэння свету»).

**1592**. У Беларусі і астатніх землях Рэчы Паспалітай былі ўведзены грыгарыянскі каляндар («новы стыль»). Год атрымаўся на 10 дзён карацейшы за звычайныя.

**1877**. Англійская каралева Вікторыя ўкаранавалася тытулам імператара Індыі.

**1881**. Доктар Джон Ватсан пазнаёміўся з Шэрлакам Холмсам.

**1912**. Нарадзіўся Кім Філбі, знакаміты савецкі шпіён у брытанскіх спецслужбах.

**1916**. Фельдмаршал фон Гіндэнбург выдаў дэкрэт аб прызнанні беларускае мовы адною з афіцыйных на тэрыторыі Заходняе Беларусі, занятай германскім войскам.

**1942**. Прадстаўнікі 26 краінаў падпісалі ў Вашынгтоне Дэкларацыю Аб'яднаных Нацыяў (Атлантычную хартыю), дзе прысягнулі бескампрамісна змагацца з фашызмам.

**1986**. Да Еўрапейскай эканамічнай супольнасці далучыліся Іспанія і Партугалія. Насельніцтва краін «Агульнага рынку» дасягнула 315 млн. чалавек.

### 2 студзеня

**1635**. Кардынал Рышэльэ заснаваў Французскую акадэмію, прызначэннем якой быў нагляд за чысцінёю дзяржаўнае мовы.

**1907**. Першы прыклад кінацэнзуры, якую ўвяла мэрыя Чыкага. Усе новыя фільмы мусіў спачатку праглядаць шэф паліцыі. Ён, у прыватнасці, забараніў паказ стужкі «Макбет» паводле п'есы Шэкспіра з матывіроўкаю, што «нельга паказваць імітацыю мастацтва за 5 цэнтаў».

**1947**. Прайшоў першы штучны дождж. Нарадзіў яго сухі лёд, раскіданы з самалёта ў абłоках над Аўстраліяй, у ваколіцах Сіднея. За некалькі гадзінаў на плошчы 80 кв. км выпала 12 мм асадкаў.

### 3 студзеня

**1492**. У Нюрнбергу быў зроблены першы глобус (спраектаваў яго купец Марцін Бехайм, які хацеў падахвоціць сяброў прафундаваць экспедыцыю ў Кітай).

**1882**. Амерыканец Шулер Вілер вынайшаў электравентылятар.

**1967**. У шпіталі памёр Джэк Рубі, забойца Лі Харві Освальда, які, паводле афіцыйнай версіі, застрэліў прэзідэнта Кенедзі. Раней пры сумнеўных абставінах памерлі ягоны адвакат, некалькі сталых наведвальнікаў ягонага бара, капітан паліцыі, які ўдзельнічаў у арышце і Рубі, і Освальда, — агулам трыццаць чалавек, якія ведалі аднаго ці другога забойцу.

**1992**. Дзяржаўным гербам Украіны быў зацверджаны Трызуб — герб Кіеўскага княства і Украінскай Народнай Рэспублікі.

**Падрыхтаваў Юрась БАРЫСЕВІЧ**

